# наша свабода

№89(176) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 ЖНІЎНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Дэмакратычныя сілы за адзінага кандыдата




Пяты Кангрэс дэмакратычных сілаў, які праходзіў 18 жніўня ў Мінску, выказаў поўную падтрымку адзінаму кандыдату ў прэзідэнты Уладзіміру Ганчарыку.

Вынікі 5-га Кангрэса былі абсалютна прадказальнымі, таму нават не спатрэбілася прымаць ніякіх спецыяльных пастановаў або рэзалюцыяў. Пасля таго, як 867 дэлегатаў — прадстаўнікоў дэмакратычных рэгіянальных аб'яднанняў — аднагалосна падтрымалі адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, Уладзімір Ганчарык выступіў з прамовай. «Я веру, што разам — нават у гэтых умовах, — мы пераможам. І разам мы пабудуем новую Беларусь. Няхай заўсёды гучыць «Жыве Беларусь!», — заявіў адзіны кандыдат.

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай запатрабаваў ад Аляксандра Лукашэнкі публічных тэледэбатаў, а таксама стварэння незалежнай камісіі па расследаванні злачыннай дзейнасці «эскадронаў смерці». 17 жніўня Цэнтрвыбаркам адмовіў адзінаму кандыдату даць прамы эфір на тэлебачанні.

У сваім выступе У.Ганчарык адзначыў, што «вертыкаль» будзе рабіць усё магчымае і немагчымае, каб не дапусціць перамогі дэмакратычнага кандыдата. Ужо ёсць звесткі, што выканаўчая ўлада атрымала загад забяспечыць у часе датэрміновага галасавання 30% выбаршчыкаў — замест устаноўленай планкі ў 5-7%. За каго яны «прагаласуюць» — тлумачыць не трэба. У звязку з такімі пагрозамі адзіны кандыдат заклікаў чыноўнікаў устрымацца ад фальсіфікацыяў і правакацыяў.

Заканчэнне на стар.3

## Шведскі дапаможнік па экалогіі

Паводле ініцыятывы беларускага грамадскага аб'яднання «Розныя-Роўныя», у Беларусі выйшаў з друку тэматычны зборнік «Экалоджык» аб'ёмам 70 старонак і накладам 300 асобнікаў. Кніга закліканая зрабіць для школьнікаў экалогію больш «жывой» і цікавай. Гэты метадычны дапаможнік плануецца бясплатна распаўсюджваць сярод выкладчыкаў экалогіі, прадстаўнікоў экалагічных грамадскіх арганізацыяў. Некалькі асобнікаў павінны быць перададзеныя ў міністэрства адукацыі, а таксама міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Выданне зборніка з'яўляецца складаючай часткай праекту «ЭкаЛоджык» і «ЭкаЛоджык — Інфарм» арганізацыі «Розныя-Роўныя». Гэтая праграма рэалізуецца з лютага 2001 года пры падтрымцы фонду *ISAR*. У яе рамках настаўнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і дзяржаўных структураў знаёмяцца са спецыяльнай шведскай методыкай выкладання экалогіі дзецям.

**Аляксей АРЭШКА**

## Масква перамагла

Пераможцам тэндэра на права стаць другім аператарам сотавай сувязі стандарту *GSM* у Беларусі мінсувязі рэспублікі, хутчэй за ўсё, аб'явіць маскоўскую кампанію МТС. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў міністэрстве сувязі Беларусі.

Кіраўніцтва мінсувязі як арганізатар тэндэра аб'явіла, што прапанаваныя фінансавыя, тэхнічныя і тарыфныя ўмовы практычна ў аднолькавай ступені выканалі тры канкурсанты — фірмы з Расіі (Масква), Аўстрыі і Саудаўскай Аравіі.

Аднак, як адзначаецца ў паведамленні мінсувязі, кампанія МТС мае сур'ёзную падтрымку з боку міністра сувязі РФ Леаніда Рэймана, прадстаўнікоў буйнога маскоўскага бізнесу, Адміністрацыі прэзідэнта і ўрада Беларусі. Пры гэтым варта адзначыць, што афіцыйныя вынікі тэндэрная камісія павінна абнародаваць 25 жніўня.

**Аляксей АРЭШКА**

## Кандыдат Лукашэнка парушае закон?

Уладзімір Ганчарык звярнуўся ў Пракуратуру Беларусі і ў Цэнтрвыбаркам з заявай аб фактах грубага парушэння выбарчага заканадаўства з боку кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта паведамляецца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным 17 жніўня выбарчым штабам адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.

Ганчарык спасылаецца, у прыватнасці, на тое, што 16 жніўня газета «Советская Белоруссия» апублікавала артыкул «Разам! А.Р.Лукашэнка — наш Прэзідэнт», у якім указваецца, што «газета выступае ў падтрымку Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі — у гэтым ні ў каго няма сумненняў». Штаб Ганчарыка лічыць, што падобныя дзеянні дзяржаўнага СМІ ўтрымліваюць прыкметы адміністрацыйнага і крымінальнага правапарушэння, паколькі носяць «усвядомлены характар і неадназарова мелі месца». Дадатковыя асобы Ганчарыка патрабуюць, каб газета «Советская Белоруссия» апублікавала ў двухдзённы тэрмін на тым жа месцы, тым жа шрыфтам і ў тым жа аб'ёме артыкул «Разам! У.І.Ганчарык — наш прэзідэнт», падрыхтаваны ініцыятыўнай групай кандыдата ў прэзідэнты.

«Гэта не адзіны факт парушэння правоў кандыдатаў у прэзідэнты», — гаворыцца ў прэс-рэлізе. Так, парушаючы выбарчае заканадаўства, Гродзенскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб вылучэнні на тэрыторыі Гродна 20 месцаў для размяшчэння агітацыйнай друкаванай прадукцыі, у той час як у горадзе больш за 100 выбарчых участкаў. Падобным чынам паступіў і Мінскі гарвыканкам (94 месцы на больш чым 700 участкаў). Уладзімір Ганчарык звярнуўся да генеральнага пракурора Беларусі Віктара Шэймана з патрабаваннем вынесці прадпісанне Гродзенскаму і Мінскаму гарвыканкамам аб неадкладнай ліквідацыі незаконных рашэнняў і прыцягнуць вінаватых да адказнасці. Такія ж заявы былі накіраваны пракурорам Мінска і Гродна.

**Крысціна СТАНКЕВІЧ**

## НАША СВАБОДА пад арыштам

Спецвыпуск нашай газеты, які выйшаў у пятніцу і быў прысвечаны прэзідэнцкім выбарам, аказаўся вельмі небяспечны для беларускіх уладаў. Не паспеўшы патрапіць да чытачоў, амаль увесь наклад газеты – 400 тысяч асобнікаў – быў арыштаваны супрацоўнікамі Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў (ДКФР) прама ў друкарні.

Канфіскаваны нумар газеты ўтрымліваў разнастайную інфармацыю пра прэзідэнцкія выбары, маючыя адбыцца 9 верасня. Адзін з матэрыялаў спецвыпуску заклікаў усіх прыйсці на выбарчыя ўчасткі, бо нават 70%-я яўка гарантавала б паразу А.Лукашэнкі.

Спецвыпуск таксама распавядаў пра адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка і пра ягоную праграму.

Варта адзначыць, што ў гісторыі НАШАЙ СВАБОДЫ гэта быў ужо 15-ты спецвыпуск. Але ён стаўся першым, які быў канфіскаваны яшчэ ў друкарні. Таму відавочна – праўдзівая інфармацыя напярэдадні выбараў непатрэбная ўладам, таму яны гатовыя любымі шляхамі перакрыць доступ людзей да незалежных крыніцаў.

Мы не збіраемся адмаўляцца ад публікацыяў на выбарчую тэматыку і таму чакаем горшага. Не выключаны нават варыянт, калі газету напярэдадні выбараў проста чарговы раз закрыюць – як заўсёды, рашэннем «зверху».

Але калі закрыццё НАШАЙ СВАБОДЫ адбудзецца, то гэта стане чарговым сведчаннем агоніі лукашэнкаўскага рэжыму. Пакуль жа мы гатовыя да апошняга адстойваць права нашых суграмадзянаў на праўдзівую інфармацыю, якая так неабходная ў перадвыбарчы час.

**Рэдакцыя**

## Двух назіральнікаў не пусцілі

Кіраўнік місіі назіральнікаў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі Хайер Балíян, які на чале групы з пяці экспертаў 17 жніўня прыляцеў у Мінск, адказваючы на пытанні журналістаў у аэрапорце, заявіў аб тым, што «дзверы місіі адчыненыя для ўсіх».

Пры гэтым кіраўнік групы не ўтойваў свайго непаразумення наконт таго, што два назіральнікі, якія павінны былі таксама прыляцець у Мінск, не змаглі атрымаць уязныя візы. Цяпер кіраўніцтва БДІПЧ прымае намаганні, каб вырашыць гэтую праблему – ці то гэта чарговая тэхнічная накладка, ці то ўсвядомленая адмова ў выдачы візаў экспертам бюро.

Мяркуецца, што ў панядзелак, 20 жніўня, назіральнікі БДІПЧ наведаюць Цэнтрвыбаркам Беларусі.

**Уладзімір ГЛОД**

# Этого нам только не хватало

## *Единственной страной в Европе, готовой принять Каддафи, стала Беларусь*

После падения Милошевича, с которым Лукашенко пытался выстроить ось Минск-Белград, похоже, другом в Средиземноморье у белорусского правителя стал ливийский диктатор Муамар Каддафи. На минувшей неделе было официально объявлено, что высокий гость из Ливии приедет в августе в Беларусь. Точная дата его приезда пока не называется. Зато только известны даты некоторых событий, которые в августе ожидают Беларусь. Это начало 26 августа широкомасштабных учений всех видов вооруженных формирований, имеющихся в наличии у Лукашенко, и 30 августа — его день рождения. Так что вполне возможно, что его друг Каддафи приурочит именно к этим датам свой исторический визит. До сих пор европейские государства не желали видеть у себя такого гостя — покровителя террористов.

В прошлом году правящие режимы в Беларуси и Ливии активно развивали между собой разнообразные отношения. Этому способствовали взаимные визиты глав внешнеполитических ведомств двух стран. Правда, почему-то о четырехдневном визите тогдашнего министра иностранных дел Беларуси Урала Латыпова государственные СМИ Беларуси сообщили только по его возвращению домой. Результатом многодневного пребывания У.Латыпова в этой ответственной командировке стал официальный визит, осенью прошлого года, самого белорусского правителя в Ливию.

Окончание на стр.3

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1460

# Каплічная сцяна

## *Старажытная аздоба Лошыцкага парка*

*У Лошыцкім сядзібна-паркавым комплексе ёсць адразу некалькі гісторыка-культурных помнікаў. Гэта не толькі маёнтак, але і флігель, млын, капліца.*

Дакладней, тое, што ад яе засталося. З гэтае прычыны на яе мала хто ходзіць глядзець з наведвальнікаў парку. Тым больш што і знаходзяцца рэшткі капліцы не навідавоку, яны схаваныя за дротавай агароджай, за дрэвамі і кустоўем і абкружаныя пчалінымі вуллямі. Улетку з галоўнай паркавай алеі зусім не заўважыць. Хіба што ўвосень, калі ападае лісце і праз галлё паказваецца шэрая з чырвонымі цаглянымі шчарбінамі сцяна. Прычынамі гэткага стану капліцы ў кіраўніцтве Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу называюць тры фактары – «лёс, час і абыякавасць людзей».

Капліца (ад лацінскай *capella*) – невялічкае культавае збудаванне для малітваў і пахаванняў без асобнага памяшкання для алтара. У Беларусі яны пачалі ўзводзіцца прыкладна з 16-га стагоддзя. Капліцы маглі быць мемарыяльныя, пахавальныя, манастырскія, замкавыя, сядзібна-палацавыя, шпітальныя, школьныя, прыдарожныя і на могілках. А па архітэктурнай форме – прамакутныя, цэнтрычныя (то бок, квадратныя альбо шасці- і васьмігранныя), аздобленыя вежачкамі ці ламанымі дашкамі.

Лошыцкая капліца – сядзібна-палацавая і васьмігранная з шатровым дахам, завершаным шлемападобным купалам. Пабудаваная ў другой палове 18-га стагоддзя ў стылі барока. Напачатку наступнага стагоддзя выява капліцы ёсць на акварэлі Юзафа Пешкі з панарамай усёй Лошыцкай сядзібы. Капліцы ў Беларусі былі і каталіцкія, і праваслаўныя. Лошыцкая была каталіцкай, паколькі ўсе гаспадары Лошыцы былі каталікамі. У 80-ых гадах 18-га стагоддзя намаганнямі прадстаўнікоў роду Прушыньскіх капліца ператвораная ў алтарыю. Капліца-алтарыя стала філіяльным касцёлам Каралішчавіцкай каталіцкай парафіі. Сюды пачалі збірацца на набажэнствы жыхары навакольных вёсак і, натуральна, насельнікі самой Лошыцы. Афіцыйныя набажэнствы тут вяліся да 1863 года, калі пасля задушэння паўстання 1863-1864 гадоў яны былі забароненыя, як і ва ўсіх іншых каталіцкіх храмах. Нягледзячы на гэта, набажэнствы час ад часу служыліся. Рабілася гэта падпольна. У 1905 годзе, паводле «маніфестаўскага» ўказа расійскага цара Мікалая II аб шэрагу палёгкаў у рэлігійным і свецкім жыцці, набажэнствы былі адноўленыя – да сярэдзіны 20-ых гадоў мінулага стагоддзя, пакуль капліцу не зачынілі бальшавікі.

Зараз ад Лошыцкай капліцы засталася адзінока стаяць усяго толькі адна сцяна-грань колішняй капліцы. Як кажа намеснік дырэктара Лошыцкага музейнага комплексу Яўген Парфіяновіч, «гнілым зубам». Толькі яна ацалела, бо бальшавікам мала было проста зачыніць старажытную капліцу. Капліца не проста перастала функцыянаваць як рэлігійны спаруд. У ёй захоўваліся сельскагаспадарчыя прылады беларускага аддзялення Усесаюзнага інстытута раслінаводства і саўгаса «Лошыца», але перад гэтым, каб збезаблічыць капліцу, з яе знеслі купал. А ў 30-ых гадах, як расказваюць старажылы гэтых мясцінаў, яе наогул узарвалі. Кажуць, падчас нейкіх ваенных вучэнняў у наваколлі. Па іншай версіі, капліца была ўзарваная пазней фашыстамі, якія трымалі тут склад боепрыпасаў.

Капліца была не толькі месцам правядзення набажэнстваў, тут былі падземныя фамільныя пахавальні гаспадароў Лошыцы. Астатняй у капліцы-алтарыі ў 1905 годзе была пахаваная жонка апошняга ўладальніка Лошыцы Яўстафія Любаньскага – Ядвіга Кяневіч, якую ён дужа кахаў. Гэта была ці не самая папулярная ў чутках пара ў Мінску і ягоных наваколлях напрыканцы 19-пачатку 20 стагоддзя. Пані Ядвіга ўтапілася ў Свіслачы. Кажуць, праз каханне з генерал-губернатарам Мінска Мусіным-Пушкіным, які займаў гэтую пасаду ў 1901-1905 гадах. Здарылася гэта ці то ад неўзаемнасці з боку Мусіна-Пушкіна, ці то пасля сваркі з мужам, які даведаўся пра тое, што жонка здраджвае яму. Пан Любаньскі затынкаваў акно ў пакоі, дзе жыла ягоная любая, а там, дзе знайшлі ейнае цела ў Свіслачы, пасадзілі абрыкос. Паводле падання, напярэдадні Купалля і калі расквітнее той абрыкос ад апоўначы да 3 гадзінаў ночы ў Лошыцы з'яўляецца прывід пані Ядвісі. Кажуць, яна з'яўляецца закаханым парам і падказвае ім, як жыць далей у каханні. А мо яна прыходзіць прывідам ад неспакою ад таго, што бальшавікі, калі перараблялі капліцу пад склад, свінцовую труну Ядвігі Кяневіч-Любаньскай, якая віселa тут, адправілі на акамулятары для мясцовай маторна-трактарнай станцыі.

Агульны праект рэканструкцыі Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу прадугледжвае аднаўленне капліцы. Аднак, нешта слаба верыцца, што ў дзяржавы, у прыватнасці ў сталічных уладаў, дойдуць рукі да самага разбуранага і закінутага аб'екта ў Лошыцы. Пакуль што яна не мае сродкаў, а збольшага жадання ўзяцца хоць бы за галоўны спаруд у парку – панскі маёнтак.

Агульныя намеры «аднавіць» не павінны ператварыцца ў змесціва доўгай скрыні, а ўвасобіцца ў канкрэтную задуму па рэканструкцыі капліцы, канкрэтны праект. Хто і калі зоймецца гэтай патрэбнай і высакароднай справай? Прыступаць да яе можна будзе ўжо ў наступным годзе. Рэч у тым, што напрыканцы 2001 года капліца і прылеглая да яе тэрыторыя будзе вернутая новаму аднаасобнаму гаспадару Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу – «Мінскзялёнбуду». Зараз яна яшчэ перабывае на правах арэнды ва ўласнасці адной камерцыйнай фірмы. Такім чынам, справа за прынцыповым і добра прадуманым рашэннем аб тым, як будзе аднаўляцца Лошыцкая капліца, а таксама, натуральна, за належным фінансаваннем рэканструкцыі. Старыя чарцяжы і фотаздымкі, як капліца калісьці выглядала, у архівах ёсць.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



Сцены сведчаць пра былую веліч будынка



У паркавым гушчары дрэмлюць старадаўнія руіны



Такая кафля ўпрыгожвала печ капліцы

# Вайна палаткам, мір – палацам?

*Ці заўважылі вы, наколькі ў Мінску стала меней кіёскаў дробнарознічнага гандлю? «Снікарсятнікі» пазнікалі з вуліцаў дзесяткамі. Навошта і за што?*

Першае, што прыходзіць у галаву, гэта «добраўпарадкаванне горада». Прыбіраючы кіёскі, нам так і тлумачылі: «псуюць гарадскі краявід, замінаюць на прыпынках і ля крамаў, вакол іх плодзіцца смецце і бруд»... Нейкі час пралетарыяў, апантаных ідэямі «бі буржуяў» ды «так ім і трэба, а то грабуць грошы лапатай», гэта задавальняла. Але калі прыйшлося па «Прыму» ды «Ролтак» ісці ў дзяржаўную краму, дзе кошты значна вышэй, на замену злараднасці прыйшло расчараванае абурэнне. Зручна, аказваецца, было, не едучы спецыяльна на базар, купіць шакаладку, цацку, мыла, чыпсы, іншую драбязу. Так што пытанне «нязручнасці для насельніцтва» адпала як гнюснейшая няпраўда.

Тады наколькі «псавалі выгляд горада» гэтыя маленькія «тысячы дробязяў»? Шмат дзе яны былі не толькі эстэтычнага і стандартнага выгляду, але нават уяўлялі сабой гандлёвыя шэрагі ці гарадкі пад адным дахам.

> Аргументы адміністрацыяў раёнаў: «Кіёскі падрываюць таваразварот дзяржгандлю». «У кіёсках ідзе «левы», некантралюемы абарот, з якога не вылічваюцца падаткі». «Толькі ў СНД, нідзе ў свеце няма кіёскаў». «Перанасычанасць раёнаў кіёскамі». «Хай выкупляюць першыя паверхі будынкаў і плацяць як след». «Прыбяром тых, хто канкурыруе па асартыменце і становішчы з дзяржгандлем». «Кіёскі адразу вызначаліся як часовыя». «Гандляры зарабілі ў іх болей першапачатковага кошту кіёска (1,5–3 тыс. долараў)».

«Смецце, бруд»? На многіх кіёсках ці побач былі сметніцы. Гандляры прыбіралі вакол «кропак». За імі пільна сачыла санэпідстанцыя: паспрабуй зарасці брудам.

Дык у чым жа справа? Найперш, у канкурэнцыі. Дзяржаўны гандаль, не прымаючы сусветных законаў рынку, дзе канкурэнцыя – асноўны механізм і дзе пакупнік «галасуе нагамі», не згодны прывабліваць людзей разумнымі суадносінамі кошту і якасці. У магазіне «Акіян» прадаюць прагорклую, высахлую ад часу рыбу па кошце свежай. Як жа можна вынесці канкурэнцыю кіёска, дзе прыслухоўваюцца да попыту і прынюхваюцца да свежасці рыбы?! У нашай краіне з канкурэнтамі распраўляюцца без арыгінальнасці: прыбіраюць. І праўда, нашто трываць прапляснеламу дзяржаўнаму гандлю «Садавіна-гародніна» больш трох тысяч прыватных палатак? Так свае ссохлыя апельсіны, прарослую цыбулю і падгнілую бульбу не прадасі. Да гнуткай цэнавай палітыкі душа ў дзяржгандлю не ляжыць, бы да здрады савецкім прынцыпам.

Такім чынам, прыватны дроб-

> Кіёскі-прыпынкі з'явіліся тады, калі ў дзяржавы не было сродкаў на замену старых навесаў. Пластыкавы кіёск-навес каштаваў 7–11 тыс. долараў. Зараз дзяржава хоча памяняць усе прыпынкі (іх чатыры віды) на аднатыпныя. Канешне, за кошт прадпрымальнікаў. Каштаваць яны будуць на парадак вышэй.

ны гандаль замінае дзяржаўнаму. Некалькі тысяч выскачак хочуць падарваць святое святых «саўка» – чэргі, дэфіцыты, продаж у нагрузку, гандлярскае хамства, гандаль пад прылаўкам «для сваіх», нязломныя цэны. Бо прадаваць учарашняе (не скіслае і якаснае!) малако або ранішні хлеб вечарам танней – гэта пахне «гнілым» капіталізмам! Так пачалі рабіць у Прыбалтыцы яшчэ ў савецкія часы, і самі бачыце, што атрымалася.

Каму яшчэ замінае прыватнік? Па вялікім рахунку – дзяржаве. Вам і мне дзіўна, што чалавек мог сам карміцца і карміць сям'ю, не патрабуючы працоўнага месца ці дапамогі па беспрацоўі, а яму не даюць гэтага рабіць. У «дзяржаўных мужоў» жа свае меркаванні. Баяцца, пэўна, каб занадта добра не зажылі. Бо чалавек забяспечаны – чалавек свабодны. Яму не трэба падладжвацца пад «правільную» думку. Ён не баіцца дзяржавы. Таму з пары тысяч долараў кошт прадпрымальніцкага статусу ўзняўся да 15 тыс. у.а. Цяпер прадпрымальніцтва – не спосаб зарабіць на сябе і сям'ю, а дадатковае ўкладанне капіталу. То бок не для слабых.

Беларусь упэўнена і рашуча адмаўляецца ад сярэдняга класа. Толькі пачаў «завязвацца тлушчык» будучага буржуазнага саслоўя – новыя дзяржаўныя рэзоны. З дастаткова багатымі

> Кіёскі, не забраныя прадпрымальнікамі, ідуць на звалку. Страты тым, чые крамкі скасаваныя, ніхто не кампенсуе.

ўжо не справіцца (ды і не трэба з усімі: многія з іх «свае» для наменклатуры Лукашэнкі), а тых, хто крыху разжыўся, можна вярнуць на месца. То бок зноў стварыць два класы – «народ» і «партыя». У народа – ліверная каўбаса з мікрараённага гастранома, у партыі – «выкупленыя» лепшыя будынкі Мінска.

«Чыстка» ў шэрагах «снікярсятнікаў», даводзілася чуць, выкліканая ці не ў першую чаргу сёлетняй забастоўкай, арганізаванай Беларускім прафсаюзам прадпрымальнікаў. Гэта ў

> З рашэння Мінгарвыканкама: «...Пункт 7. Кіраўнікам адміністрацыяў перагледзець: планіравачныя схемы размяшчэння аб'ектаў дробнарознічнага гандлю. Пры ўзгадненні з Камітэтам архітэктуры прадугледжана скарачаць дробна-рознічны гандаль, асабліва ў месцах, забяспечаных стацыянарнымі аб'ектамі гандлю і грамадскага харчавання».

нечым тлумачыць выбарачнасць знішчэння гандлёвых кропак: нейкім чынам вылічаныя «нячэсныя», і іх прыбралі ў першую чаргу. Нават калі гэта і не так, то ў «нелаяльныя», у апазіцыю такой дзяржаўнай палітыцы, а значыць і ўладзе, яны – першыя кандыдаты. Паспрабуйце ўявіць, што гэта ў вас забралі ваш бізнес. Ваша рэакцыя?.. Прыкладная лічба адрынутых ад справаў складае ля дзесяці тысяч, як гаспадароў кіёскаў, так і іх наёмных рабочых.

Што яшчэ абурае і насцярожвае ў «чыстцы» горада ад прадпрымальнікаў, дык гэта сама схема. Замінаў – прыбралі. А калі наступныя будуць недзяржаўныя выкладчыкі, газеты, перавозчыкі, цырульнікі і г.д.? Зрэшты, хто сказаў, што барацьба вядзецца на адным напрамку? «Самачыстка» была не толькі пад кіраўніцтвам Шарыкава...

Іду я па вуліцы Кальцова, дзе на рагу з Лагойскім трактам так зручна было набыць усялякую патрэбную дробязь. «Няма таго, што раньш было». Толькі тры перасоўныя палаткі з бакаламі, якія, можа, толькі дзякуючы мабільнасці выжылі. Застануся я сёння, відаць, без сваёй «Кавы па-ірландску». А дзяржаве што за клопат?..

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ**

# Украинский секретный оборот

**Андерс АСЛУН, почетный член Фонда Карнеги «За мир во всем мире». Автор книги «Строительство капитализма: Трансформация бывшего советского блока» (*Cambridge University Press*, 2001)**

Когда президент страны обвиняется в том, что он заказал убийство журналиста – а именно такие слухи ходят о президенте Украины Леониде Кучме, – трудно себе представить, что дела в стране идут на поправку. Тем не менее, в Украине все именно так и происходит. С 1991 по 1999 гг. она переживала устойчивый экономический спад, а в 2000 г. вдруг был зарегистрирован 6%-ый рост экономической активности, который в первой половине 2001 г. вырос до 9%.

Страна внезапно начала осуществлять стандартную программу радикальных реформ, хотя до этого в течение многих лет нерешительно проводила лишь частичные реформы. Самое любопытное то, что такие кардинальные реформы вообще стали политически возможны. Двери настоящим реформам открыл Российский финансовый кризис августа 1998 г., поскольку Украина, вслед за Россией, приблизилась к кризису неплатежей, и это заставило правительство проводить политику строгой экономии. Цинизм и апатия еще больше подрывали экономику. В конце 1999 г. центристские партии и партии правого крыла объединились в широкую коалицию для того, чтобы поправить дела в Украине. Улучшение последовало без промедления.

На должность премьер-министра был избран Виктор Ющенко – единственный герой первого десятилетия независимости Украины, заслуживший это звание за то, что обеспечивал стабильность валюты, работая долгое время в качестве председателя Центробанка страны. Став премьер-министром, Ющенко начал проводить широкомасштабные реформы, причем довольно быстро. Любопытно, что его главным доверенным лицом в проведении реформ была Юлия Тимошенко, один из самых состоятельных и влиятельных украинских олигархов, начавшая жестокую атаку на своих конкурентов.

Ющенко заставил расточительные правящие круги Украины потуже затянуть ремни, для того чтобы добиться незначительной избыточности бюджета. Вопреки подразумеваемой необходимости в финансовой стимуляции, строгая экономия предвещала рост, поскольку в прошлом избыточные государственные средства исчезали в карманах олигархов. Сбалансированный бюджет выравнивает игровое поле для бизнеса, увеличивая конкуренцию и, соответственно, производство.

Многие годы все кричали о том, что Украине не удается собрать государственный доход, но на самом деле ее министерство финансов собирало слишком много денег – около 40% от официально заявляемого валового внутреннего продукта, а это гораздо больше, чем в США. Такие высокие налоги платили не олигархи, а малые и средние предприниматели, которые помимо всего прочего вынуждены давать большие взятки бюрократам. Таким образом, Ющенко начал оздоровление финансов со значительного сокращения налогов. Введение простого фиксированного налога для отдельных предпринимателей дало жизнь миллионам предприятий, а с жаждущими взяток инспекциями в области бизнеса велась нешуточная борьба.



Как только малый бизнес стал расти, Ющенко сосредоточил свое внимание на олигархах. Искусство быть олигархом заключается в том, чтобы повернуть правительственные решения таким образом, чтобы государственную собственность и богатства легально сделать своими. Ющенко предпринял действия по улучшению процедур принятия решений в правительстве, которые, как известно, были составлены олигархами с учетом своих личных интересов. Отныне стало невозможно подделать подпись премьер-министра.

Втихаря украинское правительство приватизировало много больших предприятий. До президентских выборов в 1999 г. ведущий украинский олигарх Григорий Суркис захватил четвертую часть всех региональных предприятий, занимающихся распределением электроэнергии. Параллельно с этим зять президента Кучмы Виктор Пинчук завладел правом собственности на пять больших металлургических заводов. В 2000 г. Украина продала четыре крупных нефтеперерабатывающих завода: три из них – различным российским нефтяным корпорациям, и один – казахстанской нефтяной компании «Казах Ойл», и так далее. Внезапно некогда бесхозные промышленные гиганты заимели конкретных хозяев, желающих делать деньги. Благотворное влияние принесло свои плоды.

Приватизированные украинские сталелитейные заводы начали крупную кампанию по увеличению экспорта. Зарубежные нефтяные компании активно поддерживали переработку нефти в Украине, обеспечивая самодостаточность страны в отношении дорогих нефтепродуктов и резко сокращая затраты на импорт нефти. Поскольку зарубежные нефтяные компании не могут требовать правительственных субсидий, то с олигархом, живущим в роскоши за счет субсидий на импорт (Александр Волков), больше не считаются.

Распределение электроэнергии в Украине было настоящей экономической нелепостью. В то время как электростанции принадлежали государству, платы с конечных потребителей взимали предприятия по распределению электроэнергии, но часто по бартеру, уходя, таким образом, от оплаты государственным электростанциям. Общая сумма неоплаченных счетов превышала 1 миллиард американских долларов в год. Когда Суркис возник в качестве владельца такого большого количества региональных предприятий по распределению электроэнергии, заместитель премьер-министра по энергетике Юлия Тимошенко заставила Суркиса оплатить счета, так же как и налоги, реальными деньгами.

Олигарх Игорь Бакай пару лет назад заявил, что все действительно богатые люди в Украине сделали свои деньги на импорте газа из России, и это справедливо в отношении Бакая, Волкова, Тимошенко, Суркиса и Пинчука. В общей сложности управляющие российского Газпрома и несколько украинских олигархов делили между собой около 3 миллиардов долларов США в год. Именно Тимошенко систематически подрывала и разрушала этот теневой бизнес до тех пор, пока ее друзья олигархи не вынудили ее уйти из правительства и добились ее ареста за предполагаемую коррупцию. В частности, Тимошенко вытеснила из этого бизнеса Бакая.

Увы, Тимошенко была свергнута прежде, чем она смогла реформировать угольную промышленность, которая чрезвычайно криминализирована, так как получает государственные субсидии. Угольная отрасль, возглавляемая руководителем Донецкой области и руководителем налоговой службы (!), образует третью основную группу олигархов наряду с Пинчуком и Суркисом. Остальные были разорены реформами.

Украинская история не закончена, но удивительные реформы состоялись, несмотря на ее теневых политиков, а успех всегда сопутствует успеху. И хотя журналисты украинских газет и телевидения не стали независимыми, люди узнают об этих изменениях, и даже в условиях усеченной украинской демократии с мнениями простых людей сейчас считаются.

Таким образом, в стране, где большинство руководителей воспринимается как мошенники, честный руководитель является диковинкой. В начале этого года Ющенко был свергнут коалицией левых и правых сил в парламенте, действующей в согласии с президентом Кучмой, который был сильно заинтересован в том, чтобы премьер-министр Ющенко был отстранен от власти. Однако, будучи в отставке, Ющенко становится все более и более популярным.

В полуреформированных посткоммунистических или развивающихся обществах олигархи, использующие государство в своих интересах, являются наибольшей проблемой. Однако с ними можно справиться, используя конкуренцию. Вместо того чтобы заключать с ними соглашения, реформаторам следует научиться стравливать их друг с другом, чтобы стимулировать конкуренцию, что и сделал Ющенко. Когда в стране дела идут из рук вон плохо, ее экономика становится простой. Однако политическая жизнь остается напряженной.

**© Project Syndicate**

## Бацька беларускага тэатра

22 жніўня спаўняецца 140 гадоў з дня нараджэння беларускага акцёра і рэжысёра, пачынальніка беларускага нацыянальнага прафесійнага тэатра Ігната Буйніцкага.

Ён нарадзіўся ў 1861 годзе ў фальварку Палевачы блізу мястэчка Празарокі, што на Глыбоччыне. Скончыў Рыжскую каморніцкую вучэльню, потым вучыўся ў прыватнай драматычнай студыі ў Вільні. Падзарабіўшы трохі грошай каморнікам і вывучыўшы беларускі фальклор, ён пачаў ладзіць у Палевачах і Празароках танцавальныя і музычныя вечарынкі. У 1907 годзе ў Палевачах паўстае аматарскі тэатр, які ў 1910 годзе ператвараецца ў прафесійны пад назвай «Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага». Тэатр гастраляваў з такімі спектаклямі, як «У зімовы вечар», «Хам» Э.Ажэшкі і «Модны шляхцюк» К.Каганца, не толькі па Беларусі, але таксама ў Пецярбургу і Варшаве. Паказы аздабляліся дэкламацыяй вершаў, беларускімі песнямі і танцамі. Аднак праз 3 гады пад ціскам царскіх уладаў і з-за матэрыяльнай нястачы тэатр зачыніўся.

У 1917 годзе Ігнат Буйніцкі стаў адным з ініцыятараў першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Яно адкрылася спектаклямі «Паўлінка» паводле Янкі Купалы і «У зімовы вечар» паводле Элізы Ажэшкі. У 1920 годзе Першае таварыства беларускай драмы і камедыі спыніла сваё існаванне. Замест яго ў Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр (сёння – Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).

Да 140-ых угодкаў Ігната Буйніцкага ў Глыбокім і Празароках, дзе знаходзіцца магіла і помнік заснавальніку беларускага тэатра, пройдзе невялічкі тэатральны фестываль.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## Вінаватае аказалася харчаванне

Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі накіравала ў Міжнародную федэрацыю (ІААФ) матэрыялы расследавання, праведзенага па факце ўжывання спартсменкай Наталляй Салагуб забароненых прэпаратаў.

Згодна з версіяй беларускіх спецыялістаў, норандрастэрон трапіў у арганізм спартсменкі разам з харчовымі дабаўкамі замежнай вытворчасці, закупленымі ў Расіі. У медыцынскую камісію ІААФ былі накіраваныя спіс дабавак, якія ўжывала спартсменка, і ўпакоўка ад іх. Пра гэта сёння паведаміў Аляксандр Рудскіх, прэзідэнт Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

У выпадку калі версія беларускіх спецыялістаў будзе прынятая, Наталлі Салагуб удасца пазбегнуць пакарання. Згодна з міжнароднымі нормамі, адказ павінен прыйсці на працягу 28 дзён.

**Юрый ФЁДАРАЎ**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 20 - 26 августа

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Вы только и успеваете наблюдать за борьбой кланов, соседей, информационной войной и футболом в бюрократических структурах в самом начале недели. Лучше вообще исключить поездки до среды. Только действуя сообща, в компании, пробуждая к жизни ранее задуманный проект, во второй половине недели вероятна как финансовая помощь, так и прорыв в реализации честолюбивых замыслов. Можно отправиться за границу.



**ТЕЛЕЦ**. С деньгами трудно, следует экономить, опасаться воровства в понедельник и вторник. Вашей головной болью могут стать проблемы у детей или учебные вопросы. Приходится действовать в экстремальных обстоятельствах, и здесь уж следует уметь играть и участвовать в авантюрах. Во второй половине недели вам это с лихвой удается. Кто-то делает рывок в профессиональном отношении, достигает цели или новой работы неожиданным образом.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Дом становится местом острых ситуаций, могут появиться непрошеные гости в понедельник и вторник. Вердикт суда или требования супруга способны оказаться непосильными. Хорошо, что найдутся средства, спрятанные на «черный день» или полученные как возврат долга. Самые перспективные и обнадеживающие сведения поступают во второй половине недели из иностранных источников, структур власти или от любимого человека.



**РАК**. В результате чрезвычайных обстоятельств придется давать большое количество интервью или много общаться в самом начале недели. Поездки вписываются в мрачную картину, лавина информации или документов требует быстрого реагирования. Кто-то из коллектива сотрудников, какой-то общественной организации возвращает к теме прошлых планов. Во второй половине недели вы способны резко поднять свой рейтинг и использовать это для достижения необходимых результатов.



**ЛЕВ**. Похоже, что детям необходима будет ваша спонсорская поддержка. Впрочем, и в реализации творческих или игровых замыслов следует рассчитывать только на себя в начале недели. Надо отдать должное – вы выходите в лидеры общественного мнения, а кто-то решительно настроен на предложение о браке или выгодном союзе. Не упустите счастливый случай во второй половине недели, рискуйте, любите, развлекайтесь или играйте.



**ДЕВА**. Умейте держать удар, какими бы деструктивными ни оказались слухи и информация вокруг вашей персоны в самом начале недели. В родном доме, у ребенка не исключены катастрофические настроения. Все будет в порядке, если вы, как фокусник, припасли альтернативный вариант, касающийся глобальных планов. Покупка, обмен квартир и офисов могут дать нежелательный результат.



**ВЕСЫ**. Желательно быть повнимательнее к родным и близким, не полагаться на соседей в серьезных вопросах, очень осторожно заниматься вопросами недвижимости в самом начале недели. Самое боевое участие в информационных технологиях, приключениях, встречах с элитой или иностранными представителями резко повышают настроение и пробуждают вкус к жизни во второй половине недели. Кто-то готовится к свадьбе. Вам везет и в картах, и в любви.



**СКОРПИОН**. Вы способны попасть в ненадежную финансовую историю в понедельник и вторник, когда трудно будет изъять денежные средства из оборота. Кто-то занят разбирательством темных историй среди знакомых, проблем с документами, что несколько обесточивает запас жизненных сил. Однако благодаря собственным коммерческим способностям и «боевой службе» вы можете во второй половине недели получить неплохую прибыль, наблюдать благотворные изменения в доме.



**СТРЕЛЕЦ**. Разногласия с супругом и общественное порицание способны принять конкретные очертания в самом начале недели. Поэтому лучше даже исчезнуть с глаз долой. Попридержите также стремление тратить деньги, иначе можно лишиться крупной суммы. Во второй половине недели удается какая-то авантюра, новые знакомства и родные дети сулят удачу, благодаря целой группе людей появляется популярность, особенно среди противоположного пола.



**КОЗЕРОГ**. Вы способны вовлечься в довольно опасное предприятие, а кто-то будет иметь дело с медицинскими учреждениями в понедельник и вторник. Готова раскрыться тайная информация, которую вы, тем не менее, сможете использовать в качестве интриги, обернуть в свою пользу для укрепления позиций. Не исключено начало реализации уже обозначавшейся ранее идеи, приятное пребывание за границей, что сулит не только моральное, но и материальное удовлетворение.



**ВОДОЛЕЙ**. Бывает и так, что симпатичный вам человек, или же ребенок, выжимает все соки, а в результате – никакой благодарности. Главное – не вовлекаться в истории с квартирой или родственниками любимого человека. Тем более что во второй половине недели острота проблем снижается, язык явно до Киева доводит, и вы уже увидите неожиданный выход из сложных взаимоотношений. Хорошо бы попутешествовать в это время вдвоем.



**РЫБЫ**. Ваши рискованные действия способны вызвать широкий общественный резонанс. Или же резонанс может устроить супруг дома, и вам придется даже кого-то спасать. Во второй половине недели вы находите мецената или спонсора, который оказывает тайное покровительство. Делайте карьеру! Кто-то становится смелее и возвращается к старой любви, забытым дружеским связям.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1749 Нумар падпісаны ў друк 19/08/2001 (15:00) Наклад — 9.410